№ 103 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацйі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 103 (195). Год II. Вільня, 25 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.

БЭРЛІН. Між Ас'яго і Брэнтай аўстрыякі штурмам здабылі Коль дэ Россо і сумажные вяршыны. Узяты дагэтуль больш за 6,000 палонных.

БРЭСТ-ЛІТОУСК. (В.Т.Б.). 23. XII: Дэлегаты чатырох цэнтральных дзержаў радзіліся аб адказе на прэдлажэньне Расеі: Прынцыпяльна адказ прынят аднадушна.

БЭРЛІН. Імпэратар 22 сьнежня сказаў на фронці 2 арміі прамову, гаворачы між іншым:

«Часць нямецкай арміі ўзяла на сябе цяжкую задачу стрымаць наступленьне ўсяе англіцкай і ўсяе французскай арміі, каб даць сваім таварышам на поўдні і на ўсходзі магчымасць свабодна правясьці іх опэраціі. Ня гледзячы на нячутые прыгатаўленьня і вялізарные запасы матэр'ялаў ворагі нічога не дайшлі. Пры Камбрэ мы паказалі, што, ня гледзячы на трохлетнюю вайну, стары дух дзеля наступленьня ня зломлен. Мы ня ведаем, што ешчэ нас жджэ. Калі ворагі ня хочуць міра, дык мы павінны прымусіць сьвет да міра. Мы павінны разбіць дзьверы у тых, хто працівіцца вайне».

БЭРН (В.Т.Б). Украінскае Прэссбюро даносіць 20.XII с Кіева: Віннічэнко, прэзыдэнт украінскаго ураду, заявіў малой украінскай радзе, што ён паведаміў саюзьнікоў аб пачатку мірных перэгавораў. Францiя і Англія ўжо пастановілі паслаць у Украіну сваіх паслоў дзеля зашчыты іх інтэрэсаў.

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б.). Чысьленые падданые Злучэных Штатаў замешаны да змовы Каледіна. Пад засчытай „Чырвонаго Крыжа" амэрыканскіе афіцэры Андэрсэн і Пэркінс і іх аднадумцы расейскіе афіцэры Колпачнікоў і Трэблёнскій памыкаліся паслаць поезд з 20 ваенными самаходамі і іншымі матэр'яламі на Дон для Каледіна. Калпачнікова і яго памочнікоў арэштавалі. Узяты вельмі важные паперы. Задзержана тэлеграма амэрыканскаго „Чырвонаго Крыжа", палкоўніка Андэрсэна, ў каторай ён загадывае амэрыканскаму паслу выплаціць Колпачнікову 100.000 руб на высылку поезда з ваенными матэр'яламі на Дон. Гэтак сама ўзято пісьмо Колпачнікова, каторым ён паведамляў Андэрсэна, што 70 вагонаў ужо нагружэны дзеля адпраўкі.

ПЕЦЯРБУРГ (В.Т.Б). Селянскі з'езд прыняў рэзолюцію, жадаючы, каб склад установчаго сойму адпаведаў жаданьням дэпутатаў селянскіх, работніцкіх і сатдацкіх рад.

РОТТЭРДАМ. Расейскі урад друкуе адозву аб сазыве установчаго сойму. Выбраные дэпутаты, ў тым ліку і кадэты, павінны атрымаць у бюро камісараў установчаго сойму пазваленьне быць на засгданьнях.

БЭРЛІН. Уцёкшые з Рэвеля ў Рыгу немцы апаведаюць аб поўным развале гасударственаго organізму ў Эстляндзіі і паўночнай часьці Ліфляндзіі. Німа тутака ніякаго ладу. Урад упаўнамочыў грамаду да 3 (16) сьнежня заўладаць прыватнымі землямі. Пад той час, як селяне, каторые маюць сваю ўласную зямлю, бароняць сваё дабро і не прынімаюць учасьця ў раздзелі дворных зямель, беззямельнікі шмат дзе пачалі гвалтам дзяліць зямлю. Рух прынімае вялізарные размеры.

БЭРН. У тутэйшай сэрбскай колоніі ходзяць чуткі, што сэрбскі і чорнагорскі каралі пасьля замірэньня на усходнім фронці прабавалі завязаць безпасрэдные зносіны с Пецярбургам, каб разам з Расеей вясьці мірные перэгаворы с цэнтральными дзержавамі. Французскі урад адмовіўся даць пазваленьне на безпасрэдные зносіны між сэрбскім каралём і Расеей, а каралеўскаго кур'ера не пусьцілі ехаць у Пецярбург.

ПАРЫЖ. **Парлямэнт.** На заседаньні пасьля абеду соцыялісты і левые радыкалы вельмі востра напалі на Клемансо.

БАЗЭЛЬ. Наводлуг англіцкіх газэт, офіцыальны падрахунак англіцкіх страт паказвае, што Англія за 11 сёлетніх месяцоў утраціла 932.000 салдатаў і афіцэраў.

ВАШЫНГТОН (В.Т.Б.). Урад дзеля спажыўных спраў пазволіў вывязьці 40.000 тонн (каля 2½ мільёнаў пудоў) аўса і жыта дзеля галадаючаго насяленьня Фінляндзіі. Паўнамочнік Фінляндзіі дзеля нагрузкі збожжа на параходы вышлець іх у Фінляндзію праз Швэцію.

## Мірные перэгаворы.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 20.XII. Імперскі канцлер прыняў сягоньня прэдстаўнікоў усіх партый Рэйхстагу і вёў гутарку аб палітычным палажэньні, утварыўшымся с прычыны пачатку мірных перэгавораў з Расеей. Імперскі канцлер заявіў, што імпэратар упаўнамочыў яго зрабіць мір, а ён, канцлер, выбраў за пасрэдніка ў перегаворах статс-сэкрэтара Кюльмана. Пасьля падробнай гутаркі выявілася поўная згодлівасць пагляdaў усіх быўшых тут дэпутатаў з уласьцю.

БЭРЛІН. С прычыны перэгавораў між імперскім канцлерам і прэдстаўнікамі парлямэнцкіх партый газэты цішуць, што сперша прэдстаўнік крайніх соцыалістаў, Гаазе, не згаджаўся с праграмай ураду, але ў канцы нарады дайшлі поўнай згодлівасьці ўсіх сабраўшыхся. Гэта згодлівасьць паказвае, што у Брэст-Літоўску будзе зроблена карысная для ўсяго народу работа.

АМСТЭРДАМ. 19 сьнежня с Пецярбурга выехала у Брэст расейская дэлегація дзеля вядзеньня мірных перэгавораў. Яна складаецца з большэвіка Покровскаго, дыплёмата Добровольскаго, генэрала Іванова і фінансіста Оболовскаго.

ВАРШАВА. Генэрал-губэрнатар Бэзелер праводзіў статс-сэкрэтара Кюльмана з Варшавы да Ковля.

ВЕНА. Першая сустрэча гр. Чэрніна з расейскай дэлегаціей у Брэст-Літоўску мела вельмі прыязны характэр.

БРЭСТ-ЛІТОЎСК. (В.Т.Б.). 22. XII. Статс-сэкрэтар Кюльман са сваей сьвітай прыехаў сюды ўчора ў вечары. Гэтак сама прыехала боўгарская дэлегація.

Статс-сэкрэтар меў магчымасць ешчэ вечэрам сустрэцца з дэлегатамі цэнтральных дзержаў і Расеі.

А 4 гадз. паабедзі сягоньня у Брэст-Літоўску урочыста пачаліся мірные перэгаворы. Дзеля гэтаго тут зыйшліся гэткіе дэлегаты: ад Нямеччыны — Кюльман, пасол Розэнбэрг, сэкрэтар пасольства Гэш, генэрал Гоффман і маёр Брынкман; ад Аўстрыі — гр. Чэрнін і інш.; ад Боўгарыі — міністэр судоў Попов і інш.; ад Турэччыны — Ібраім Гаккі-Паша і інш.; ад Расеі — Еффэ, Каменёв, Бічэнко.

Глаўнакамандуючый на ўсходзі прынц Леопольд Баварскі вітаў з'ехаўшыхся ў яго кватэры прэдстаўнікоў дзержаў прамовай, выказываючы цьвёрдую веру, што пачаўшыеся мірные перэгаворы скора давядуць да міра.

Статс-сэкрэтар Кюльман сказаў між іншым гэтак: „Ня можэ быць ніякай гутаркі, каб на цяперашніх перэгаворах можна было падробна апрацаваць умову аб міры. Я паставіў сабе на мэці устанаўленьне найважнейшых прынцыпоў і варункаў, каторые пазволілі бы магчыма скора вярнуць добра-суседзкіе адносіны — асабліва на культурным грунці, а таксама умову аб спосабах залячэньня зробленых вайной ран. Вы, панове, будзеце прымушэны лічыцца, з аднаго боку, з гісторычнымі данными, каб не утраціць пад нагамі цьвёрдаго грунту фактаў, а з другога — с тымі новымі ідэямі, апіраючыся на каторые сабраўшыеся тут зыйшліся".

Пасьля былі прыняты гэткіе пастановы:

Пытаньне аб рангах развязываецца ў альфабэтычным парадку прэдстаўнікоў пяці дзержаў.

Маршалкоўства на нарадах пераходзіць пачародзі на галоў дэлегацій пяці дзержаў.

Перэгаворы вядуцца: па нямецку, боўгарску, расейску, турэцку і французку.

Пытаньня, якіе датыкаюць толькі паадзінокіе дзержавы, развязываюцца на асобных нарадах дэлегатоў тых дзержаў.

Офіцыальные пратаколы спісываюцца супольне.

Пасьля галава расейскай дэлегаціі выясьніў асновы расейскай праграмы, каторые, наагул згодлівы з вядомымі пастановамі рад раб. і салд. і з'езду селян.

Дэлегаты цэнтральных дзержаў заявілі, што яны гатовы прыступіць да разгляду расейскаго пагляду. Гэта адбудзецца на чародным заседаньні.

БЭРЛІН. Гэтымі днямі выедзе адгэтуль у Пецярбург мешаная камісія с прэдстаўнікоў розных урадаў дзеля аднаўленьня экономічных і культурных зносін з Расеей.

Аўстрыяцкая камісія з гэткай жэ мэтай ужо выехала.

ПАРЫЖ. Французскіе газэты надрукавалі умову аб замірэньні цэлком. Большая часць газэт абкідае большэвікоў вулічнай лаянкай і піша аб „подлай здрадзе Леніна".

